Pierasyłka apłačana „ryčałtam“.

Цана асобнага нумару 15 гр.

№ 1. Вільня, серада 20 лютага 1929 г. Год III.

РЭДАКЦЫЯ й АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Новы Сьвет. Тургельская 22 кв. 3.
ПАДПІСКА: на год . . . . 6 зал
„ паўгоду . . . 3 „
на 3 месяцы . . 1 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

# НАРОД

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЕ СЯЛЯНСКАЕ ПАРТЫІ.

ЦАНА АБЕСТАК:
Перад тэкстам . . . . 20 гр.
Сярод тэксту . . . . . 25 гр.
і па тэксьце. . . . 15 гр.
за радок дробнага друку.

Выходзе 4 разы у месяц.

## Да самадзейнасьці!

Нашая інтэлігенцыя ў вялізарнай большасьці паходзіць з прывыклай да супакойнай працы на зямлі земляробскай гушчы, у шмат меншай меры паходзе яна ад радзімаў, бацькі каторых займалі ўрадовыя службы за Расеі. Абодва гэтыя слаі нашага насяленьня ня прывыклі да працы вольных профэсыеў і пагатове няпрывыклі яны да працы, дзе вымагаецца самастойная прадпрыемлівасьць, ініцыятыва — да асобнай і грамадзкай працы культурна-асьветнай і гаспадарскай, асабліва гандлю. Гэтым адзначаецца й нашая інтэлігенцыя. А тымчасам беларускага гаспадарства няма, у каторым-бы беларускія інтэлігенты маглі займаць урады, а яшчэ доўга прыйдзецца чакаць, пакуль польская ўлада пачне прыймаць Беларусаў на ўрады.

Дык самадзейнасьць асьветнаю й гаспадарскаю мы мусім вытварыць у сябе. Ад гэтага залежа цяперака доля беларускага руху і доля беларускага народу ў Заходняй Беларусі.

Гляньма на Жыдоў! Да іх адносіны польскай улады мала лепшыя, як да нас, Беларусаў, а тымчасам дзякуючы сваёй прадпрыемлівасьці, свайму прамыслу і, асабліва, гандлю, яны жывуць нішто, прынамся шмат ляпей за нас, нягледзячы на тое, што ня маюць собскай зямлі. Мы, Беларусы ўрадовых школаў можна сказаць ня маем, бо нам іх не даюць. Ня маюць урадовых пачаткавых школаў і Жыды, але яны маюць мноства сваіх прыватных школаў, так што ўсе жыдоўскія дзеці могуць вучыцца ў сваіх школах. Нягледзячы на вашаю беднасьць, маглі-б і мы, Беларусы, гэтага дапяць, каб толькі ўсе ў нас зразумелі канечнаю патрэбу вучыць дзеці ў роднай школе ды завінуліся каля гэтага. Апрача школы, можна вучыць дзеці пабеларуску групамі; гэта нікому не забаронена. У кожнай сям'і бацькі павінны парупіцца, каб іхнія дзеці канечне навучыліся пабеларуску прынамся чытаць і пісаць.

Патрэбна яшчэ зашкольная культурна-асьветная праца грамадзкая—культурна-асьветныя й гаспадарскія Т-вы Беларускага Гаспадарскага Зьвязу і інш., аматарскія тэатры, лекцыі, гутаркі.

Другой вялізарнай галіною дзейнасьці была-б праца гаспадарская—земляробскі прамысл, арганізаваны супольнымі сіламі, коопэрацыя, фірмовыя гандлёвыя супалкі або й зусім звычайны гандаль.

Трэба, каб уся нашая, асабліва безработная, інтэлігенцыя й паўінтэлігенцыя знайшла сабе ў гэтых дзьвюх галінах дзейнасьці ды, ствараючы лепшаю будучыню свайму народу, разам з гэтым забясьпечыла-б будучыню свайму народу, разам з гэтым забясьпечыла-б будучыню й сабе. А разам з інтэлігенцыяй узварухнецца і прыйме ўчасьце ў будаваньню свае культуры й гаспадаркі і ўвесь народ.

**Максім Прынскі.**

## Зь Беларускага Гаспадарскага Зьвязу.

**Лекцыі ў Таварыствах Зьвязу.**

У хуткім часе старшыня Б. Г. Зьвязу інжынер М. Гузоўскі аб'едзе Таварыствы Б. Г. Зьвязу: Ашмянскага, Валожынскага й Маладачанскага паветаў, гдзе прачытае цыкль лекцыеў з гаспадарскае галіны. Падробна аб дню й тэме лекцыеў кожнае Таварыства будзе павядомлена асобне.

**Новае Таварыства Б. Г. Зьвязу.**

Дня 30 сьнежня 28 г. заложана новае Таварыства Б. Г. Зьвязу ў вёсцы Вялікае Сяло, Маладэчанскай вол. і пав. Урад Т-ва наступны: старшыня—Янка Татун, скарбнік—Юльлян Наваш, сэкрэтар—Мікалай Татун, заступнікі да Ўраду—Станкевіч Міхал, Рухля Амільян і Чарнецкі Янка.

**Новы коопэратыў (сябрына) Б. Г. Зьвязу.**

Дня 30 сьнежня 1928 г. у в. Вялікае Сяло, Маладэчанскае вол. і пав. закладзены спажывецкі коопэратыў Б. Г. Зьвязу „Вялікая Зорка“.

## Агітатары чорнае сотні ў сьвяшчэніцкай расе.

Агітатары чорнае сотні пачалі праводзіць сваю ганебнаю працу сярод беларускага народу. Каб зусім забіць у тым народзе яго беларускі дух, яны пачалі ўсякімі шляхамі праходзіць у Віленскаю Духоўнаю Кансысторыю на месцы сяброў кансысторыі, дзелаводаў, а таксама і благачынных, якія хочуць зрусафікаваць нашаю веру й царкву. Спачатку гэтыя агітатары чорнае сотні стараліся заслужыць давер'е народу, а пасьля мала-памалу пачалі сваю Каінскаю працу.

Падчас выбараў у Сойм і Сэнат гэтыя чарнасоценцы адразу-жа пачалі агітаваць за расейскаю партыю Р. Н. О.

Такімі чарнасоцевцамі ў сьвяшчэньніцкай расе зьяўляюцца паміж іншымі сябры Віленскай Кансысторыі прот. М. Кушнёў і прот. Васілеўскі. Той хто агітуе за матушку Расію, хаця-ж і ў расе, ёсьць непрыяцелям беларускага народу і агентам тых вузкалобых, недалёкіх палітыкаў „адзінае й недзялімае матушкі Расіі“. Народ гэта зразумеў і стараецца вызваліцца з пад апекі Кушнёвых і Васілеўскіх і ўжо робіць да гэтага адпаведныя крокі. Кушнёў езьдзіць па такіх-жа чарнасоценцах як і сам і зьбірае нейкія подпісы проці Беларусаў.

*Праваслаўны Беларус.*

## НАВІНЫ.

— *11-ыя ўгодкі незалежнасьці Літвы* сьвяткавала літоўскае грамадзянства ў Вільні 16-га лютага. На сьвята былі запрошаны і прадстаўнікі беларускага грамадзянства, з каторых прамаўлялі пас. А. Стэповіч, пас. д-р. Я. Станкевіч і Я. Шутавіч (апошні ад студэнтаў). Падаем прамову пас. д-ра Я. Станкевіча: „Паважаныя панове й грамадзяне, ад Бел. Сялянскай Партыі маю гонар прывітаць Вас у 11-ыя ўгодкі незалежнасьці Літвы. Нас, Беларусаў, лучыць зь Ліцьвінамі ня толькі спрадвечнае суседзтва, але й даўгія вякі супольнага палітычнага жыцьця, даўгія вякі мы былі суграмадзянамі і палітычнымі сябрамі. Дзеля таго пры будаваньню літоўскага гаспадарства ня было Беларуса, каторы-бы з гэтага ня цешыўся. Мы спадзяемся, што з часам паміж беларускім і літоўскім народамі настане ізноў ідэйна-палітычнае сяброўства. Дык мне асабліва прыемна пажадаць вам удачаў у вашым, так блізкім і дарагім нам, гаспадарсьцьвеным жыцьцю“.

— **Kalendaryk, Chryścianskaj dumki.** Пад такім назовам выйшаў з друку маленькі каталіцкі календарык у беларускай мове. Календарык надрукаваны лацінскімі літарамі, мае 64 стар. малога фармату. Цана календарыка 60 грашоў. Апрацаваў і выдаў календарык ідэйны й рухлівы ў беларускім руху кс. П. Татарыновіч.

Хто ўмее чытаць кірыліцай („рускімі“ літарамі) таму найляпей будзе купіць багаты й вялікі Беларускі Народны Календар (цана 1 зал. 10 гр.), але хто ўмее чытаць толькі лацінскімі літарамі, таму радзім купіць Kalendaryk Chryścianskaj Dumki“.

— **Z majho wakonca.** Выйшла кніжка вершаў Ст. Станкевіча пад назовам „Z majho wakonca“, выданьне Я. Гапановіча, стар. 64 у 16⁰.

## Із Заходняй Беларусі.

**Суд над 35-ма Беларусамі ў Беластоку.**

14 лютага кончыўся ў Варшаве апэляцыйны суд над 35-ма Беларусамі, абвінавачанымі ў належнасьці да комуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Гэтыя 35 чал. былі арыштаваны зь іншымі, разам 133 чал. Увясну 1928 г. быў над імі акружны суд у Беластоку. Апэлявалі толькі засуджаныя на 5—8 год цяжкой турмы.

Апэляцыйны суд 17-ём абвінавачаным зацьвердзіў прысуд акружнога суду, а 16-ём зьменшыў кару, пры гэтым некаторым зь іх на аснове амністыі дараваў зусім кару і звольніў з турмы.

**Апэляцыйны суд „Грамады“.**

Апэляцыйны суд над „Грамадой“ будзе 28 лютага ў Вільні. Падсудныя не абавязаны быць на судзе і дзеля таго могуць прыехаць толькі на свой кошт. Беларускае грамадзянства спадзяецца, што „Грамадаўцы“ будуць апраўданы.

## ЛІСТЫ.

**Рэлігійны фанатызм.**

Сольская парахвія, Ашмянскага пав.

Мінулі ўжо і на нашых землях тыя смутныя часы рэлігійнае барацьбы, узаемнае, паўстаўлай на груньце розных рэлігіеў, ненавісьці і дзікога фанатызму, калі чалавек аднае рэлігіі, ад душы ненавідзеў чалавека другой рэлігіі. Нашая Сольская парахвія ёсьць у шмат горшым палажэньні чымся суседнія ваколіцы, да нас рэдка калі трапляе зерня беларускае сьвядомасьці, а навакол пануе адвечная цемра. Пры гэтым яшчэ й нашая інтэлігенцыя, як напрыклад наш сольскі пробаршч, кс. Курпіч заместа таго, каб стаць на варце ўсестароньняга адраджэньня сваіх парахвіян, ён стараецца ўсімі спосабамі захаваць дагэтулешнія адносіны. Ён навет стараецца вытварыць ненавісьць сярод насяленьня розных рэлігіяў. І вось, калі ў маі летась адна дзяўчына зь вёскі Кушлянаў выйшла замуж за старавера ў вёску Слабада, то наш ксёндз натолькі абурыўся, што ўсёй вёсцы Кушлянам загадаў праз цэлы месяц насіць жалобу, а на памятку гэтага „смутнага“ здарэньня загадаў яшчэ ў вёсцы Кушляны паставіць крыж.

Вось бачым якія пастунпкі кс. Курпіча, каторы заместа таго, каб пашыраць узаемнаю любоў сярод усяго народу, каб лучыць усіх людзёў, хоць яны розьняцца рэлігіяй, ён падбурае сваіх парахвіян да дзікой ненавісьці аднаго проці другога і яшчэ за кожнаю непаслушнасьць страша пеклам.

Вось да чаго дайшоў наш ксёнд, каб паставіць

жыліся ад галасаваньня: эндэкі, „Пяст“ і Пол. Пар. Соцыял.

**Сэнат.** Буджэтная комісыя сэнату вярнула дагэтуль блізу што ўсе соймавыя папраўкі, значыцца сэнацкая комісыя падзьдзержуе буджэт прапанаваны ўрадам. Дык яшчэ няма пэўнасьці, як будзе канчальна выглядаць сёлетні буджэт.

### Проект конституцыі Б. Б.

Беспартыйны Блёк Супрацаўніцтва з Урадам падаў у Сойме свой проект новай констытуцыі.

Паводле гэнага проекту права выбіраць паслоў мелі-б грамадзяне, што скончылі 24 гады. Права выбіраць паслоў, сэнатароў і прэзыдэнта мелі-б такжа заўсёдныя вайскавыя (афіцэры й падафіцэры). Паслы маглі-б быць пазбаўлены свайго мандата, калі-б Найвышшы Трыбунал прызнаў іх захаваньне недапавядаючым дастаенству пасла. У спрэчным выпадку аб важнасьці выбараў пастанаўляў бы прэзыдэнт. Прэзыдэнт выбіраўся-б усім народам з двух кандыдатаў, з каторых аднаго выстаўляў-бы ўступаючы сойм і сэнат разам, а другога ўступаючы прэзыдэнт.

Сэнат складаўся-б із 150 чал., з каторых 50 былі-б назначаны прэзыдэнтам.

## Першы славянскі з'езд філёлёгаў у Чэхаславаччыне.

Ў сотыя ўгодкі сьмерці Язэпа Даброўскага (Józef Dabrovsky) мае адбыцца з'езд славянскіх філёлёгаў, ад усіх славянскіх народаў. З'езд, паводле згоды чэхаславацкае ўлады, адбудзецца 6—13 кастрычніка 1929 году ў Празе. Ужо падрыхтаваўчая праца пачалася. Ў камісыі працуюць галоўным чынам славістыя чэска-пражскага унівэрсытэту: праф.: д-р. І. Горак, праф. д-р. Мурко. Падрыхтаваўчая камісыя з мейсцам сталага пабыту ў Празе (Praha V, Brehova ul. č 5, Slovensky Seminar), прапануе учаснікам, каб на з'ездзе рэфэраты прамоўлены былі ў рамках наступных трох аддзелаў:

1. Лінгвістыка славянская.
2. Гісторыя славянскіх літэратураў.
3. Этнографія з ухілам у народнаю славеснасьць.

Падрыхтаваўчая камісыя ўжо разаслала паведамленьні і запрошаньні, між каторымі ёсьць запрошаньне Беларускай Акадэміі Навук у Менску і паасобным беларускім філёлёгам.

З тых хто гэтага запрошаньня не атрымаў мусіць зьвярнуцца да 15. III. 1929 з паданьнем атрымаць удзел і назоў рэфэрату. Рэзумэ можа быць заслана да 1. V. 1929.

Трэба думаць што й Заходняя Беларусь будзе заступлена на з'ездзе побач з Усходняй Беларусьсю.

*Філёлёг.*

## Такі дабіліся роднай школы.

Пасьля даўгога стараньня Беларускаму Гаспадарскаму Зьвязу такі ўдалося дабіцца прыватнай беларускай школы ў в. Панізьзе (Валожынскі абвод) Валожынскага пав. Вучыцелям зацьверджаны Міхал Шакун. Занаткі пачаліся зь лютага месяца. 14 лютага было каля 40 вучнеў, цяпер іх, пэўне, ёсьць шмат балей. Інспэктар Валожынскага пав., Ставовы, будучы злосным праціўнікам беларускіх школаў, не перастаў ходацца зь беларускаю школаю і пасьля яе адчыненьня. Гэтак ён зусім бяспраўна не хацеў зацьвердзіць другога вучыцеля у школу, бо быццам у аднакляснай школе ня можа быць балей аднаго вучыцеля. Так сама бяспраўны быў вусны загад таго-ж інспэктара, каб у школу ня приймаць балей, як 48 дзяцей, ды каб ня прыймаць дзяцей із польскіх школаў, у каторыя прытым-жа дзеці былі загнаты прынукаю пад страхам кары, тады як школы беларускай школьная ўлада доўга не дазваляла адчыняць.

Адцемім тутака, што школу ў Панізьзі ўдалося адчыніць як дзякуючы стараньням Беларускага Гаспадарскага Зьвязу так і дзякуючы энэргічнаму дамаганьню роднай школы з боку мясцовага насяленьня.

## Што дзеіцца ў сьвеце?

### Папескае гаспадарства.

Умоваю паміж Папежам і Італіяй утварана новае маленкае гаспадарства незалежнае пад уладаю рымскага папежа. Найвышшай сьвецкай уладаю ў гэтым гаспадарстве будзе папеж. Утварэньням гэтага гаспадарства адбудавана даўнейшае касьцельнае гаспадарства, каторае трывала ад 755 г. да 1870 г.

У першай чэцьверці XIX ст. касьцельнае гаспадарства абыймала прастор 41 тыс. кв. кілёмэтраў з насяленьням каля 3 міл. У 1860 Італьянцы зьменшылі на 2 трацiны касьцельнае гаспадарства, а ў 1870 зусім яго ліквідавалі, пакідаючы папежу права экстэрыторыяльнасьці.

Эўропэйскія палітыкі прызнаюць, што ўзнаўленьне касьцельнага гаспадарства будзе мець сусьветнае значэньне, шмат павялічаючы ўплыў папежа.

Адначасна з гэтым прызнаюць, што ў сьвеце павялічацца такжа ўплывы Італіі, бо дзякуючы ёй ўзноўлена касьцельнае гаспадарства і ў яе наладжаны найпрыязьнейшыя адносіны з папескім пасадам. Дзеля таго думаюць, што ў каталікоў усяго сьвету могуць зьявіцца некаторыя сымпатыі да Італіі, асабліва гэтыя сымпатыі будуць там, дзе працуюць рымскія місыянэры. Гэтым затрывожаны некаторыя гаспадарствы, наўперад Францыя.

### Бітва паміж вернікамі дзьвюх вераў.

У індыйскім месьце Бамбаі ўзьнялося крывавае ходаньне Індусаў індускай веры зь іх-жа братамі— Індусамі-мусульманамі. Каля 150 ёсьць забітых і 800 раненых. Мусульманаў у Індыі ўсяго толькі некалькі міліёнаў, а вернікаў індускай веры каля 300 міл., але мусульмане, дзякуючы асаблівасьцем свае веры, актыўнейшыя.

### М а р о з ы.

Ня толькі сёлета вялікія марозы ў Беларусі, але імі абнята ўся Эўропа і значная часьць Азыі. У Заходняй Беларусі мароз у некаторых мясцох дахадзіў да 45 градусаў; ад марозу мерзла навет жывёла ў хлявох. У Чэхіі ў некаторых мясцох мароз даходзіў да 40 гр., у Румыніі ад 32 да 40, у Бэрліне да 29 град., таксама ў Вене. Навет мароз ёсьць у Францыі і ў вечна цёплай Італіі.

## Значэньне кооперацыі.

Коопэрацыя цяпер адыгрывае адну з галаўнейшых ролеў у гаспадарскім адраджэньні. Яна ня толькі служа вызваленьню асобных клясаў народу, (сялянства, работніцтва), але навет падыймае з галіты й занападу цэлыя народы, што спазьніліся ў сваім гаспадарскім развою з тых ці іншых прычынаў.

Што коопэрацыя можа падняць дабрабыт і культуру народаў навет найбяднейшых паводле свайго прыроднага багацьця у гэтым няма сумлеву.

Добрым довадам і прыкладам для гэтага будзе Данія, Фінляндзія. Гэтыя два невялічкія краі, бедныя па сваёй прыродзе, дзякуючы коопэрацыі, што праявілася ў згоднай супрацы сялян у ўсіх галінах земляробскага вытварства, скоопэратызавалі блізу што ўсё гаспадарскае жыцьцё. Дало гэта той вынік, што гэтыя краі цяпер да некаторай меры служаць прыкладам іншым. Невялічкая Данія б'е сваім заграпічным вывазам (масла, яйкі і інш.) краі многа разоў яе большыя; мае яна заўсёды дадатні гандлёвы баланс, каторага так ня могуць дапяць іншыя.

Галоўнай прычынай коопэратыўнага руху быў і ёсьць непамерна распухлы прыватны гандаль, дзякуючы чаму тавар з хвабрыкі, таксама земляробскія вырабы, мусіць ісьці да спажыўца вялікім радам драбінак прыватнага пасярэдніцтва. Вынікам гэтага падарожжа было тое, што спажывец плаціў за некатарыя тавары ўдвая, утрая болей, чымся яны былі варты.

Канкурэнцыя, што быццам запыняе даражыню,

гэт'кі: з панам пагадзіцца і за кожны морг лесу вымагаць па чатыры маргі поля на Падлесьсю.

Зьдзівіліся ўсе і вельмі ўзрадаваліся з такое магчымасьці, а Рыгор яшчэ гаманіў, што таксама згадзілася адна вёска каля Плоцка, аб чым вычытаў у газэце.

— Добра кажа, дзяцюкі! Жыдзе, гарэлкі! — крыкнуў Плошка ў дзьверы.

— За тры маргі бору якраз было-б нам дванаццаць поля!

— А нам зь дзесяць, цэлая гаспадарка!

— І хай-бы дадаў крыху кустоў на апал.

— А за пасьбішчы мог-бы даць хоць па маргу сенажаці.

І крыху дзерава на будоўлю—крычэлі адзін за адным.

— Яшчэ крыху і захочаце, каб вам даў па кані з возам і па карове, што? — насьміхаўся Мацей.

— Ся! трэба цяпер намаўляць, каб гаспадары забраліся, пайшлі да пана і запрапанавалі яму чаго хочуць: можа й згодзіцца.

Мацей яго перабіў:

— Калі ня мае нажа на горле, дык ня згодзіцца: яму як га трэба грошы, і Немцы іх дадуць, хоць-бы заўтра, хай толькі згодзіцца... А пакуль нашыя надзяруцца патыліцы, пакуль нарадзяцца, пакуль на адно згодзяцца, пакуль бабы перацягнуць на свой бок, дык месяцы пройдуць, пан зямлю прадасьць і да нас плячыма адвернецца: будзе мець за што прававацца за бор. Рыгораў спосаб разумны, але мне здаецца, трэба яго з другога канца пачынаць.

— Дык кажы, Мацей, радзь!

— Не гаманіць, ня радзіцца, а трэба зрабіць так сама як з борам.

— На пару гэтак можна, а на пару не! — буркнуў Рыгор.

— А я тэ кажу, што можна, іншым крышку спосабам, але тое самое выйдзе... Да Немцаў ісьці ўсёй грамадой і супакойна заявіць, каб ня важыліся купаваць Падлесься...

— Але, яны такія дурныя, што зараз нас спалохаюцца й паслухаюць!

— Дыкжэ ім заявім, што калі не паслухаюць і купяць, дык не дазволім сялібіцца, не дамо кроку[1]) ступіць за поле. Пабачыце, што спалохаюцца! Выкурым іх, бы лісоў із ямы.

— Пэўне, быццам ня знайдуць абароны!.. дадушы, так нас ізноў за гэтыя пастрашаньні засадзяць у турму!—ускрыкнуў Рыгор.

— Калі засадзяць, то й пусьцяць, вякаваць там ня будзем, але затое, як выпусьцяць, дык Немцам будзе яшчэ гарэй... яны ня дурныя і пярвей добра падумаюць, ці ім вайна з намі пойдзе на здароўе... Пан таксама начай запяе, як яму купцоў разгонім, а ня так...

Але ўжо Рыгор ня мог вытрываць, ускочыў ад столу і пачаў з усяе сілы адводзіць ад гэтых адважных плянаў. Даводзіў, якія з гэтага вынікнуць процэсы, новыя страты ўсім, новыя шкоды, што могуць пазасаджваць іх за гэтыя заўсёдныя бунты на пару год у турму... што ўсё магчыма зрабіць супакойна із самым панам, прасіў, каб новага няшчасьця не наклікалі на народ. Гаманіў доўга, ажно пачырванеў, ажно цалаваў іх, просячы, каб пакінулі, але ўсё гэта было дарма, словы ягоныя адбіваліся ад людзёў, як гарох ад сьцяны. Напасьледак Мацей сказаў:

Гамоніш, бы ў касьцеле, як-бы з кніжкі чытаў, а нам чаго іншага трэба!

Разам усе пачалі гаманіць, зрывацца, біць кулакамі ў стол і крычэць ізь вялікае радасьці:

— На Немцаў пойдзем, разгонім прыблудаў! Мацей добра кажа, яго слухаем, а хто баіцца, хай пад падушку схаваецца!

Немагчыма ўжо было да іх гаманіць, так іх разабрала.

* * *

(Далей будзе).

*) Сігню, „шагу“.

запраўды мала памагае, а толькі стварае грунт дзеля фальсыфікацыеў (падробу) тавараў. Фальсыфікацыя еміны бывае часта шкодліва ня толькі кішані спажыўцовай, але й ягонаму здароўю, бо прыватны гандаль у сваім пагоне за зыскам часта забываецца гэткаю „дробнаю“ рэч, як здароўе спажыўцова.

Першы спажывецкі коопэратыў (сябрына) паўстаў сярод работнікаў, нямаючых працы ткачоў места Рочдэля[1]). Зрабілі гэты важны крок спачатку ўсяго двацацёх восемёх чалавекаў з мэтай заашчадзіць свой працоўны грош і дастаць лепшай якасьці тавар. Гэткія былі скромныя жаданьні першага коопэратыву, што радзіўся саматугам (тварцы ягоныя ня ведалі ніякіх эканаміцкіх тэорыеў) з прычыны толькі аднаго магутнага інстыкту абароны ад вызыску вольным гандлям.

Адгэнуль (было гэта ў палавіне мінулага стагодзьдзя) коопэрацыя памалу перакінулася ў усе краі Эўропы і шырака разраслася. Апрача коопэрацыі спажывецкай зрадзілася яшчэ: пазыковая, земляробская, вытворская і інш. На перадзе іх усіх—коопэрацыя спажывецкая. Яна ў многіх краёх значна выцісьнула прыватны гандаль і пачынае паступова захопліваць продукцыю. Добрым дзеля гэтага прыкладам можа быць і коопэрацыя спажыўцоў Польшчы, каторая (коопэрацыя) за кароткі час свайго быцьця стварыла ў цэлым краі сетку коопэратываў (хоць досыць яшчэ рэдкаю) і паступова пачынае пераходзіць да прадукцыі. Цяперака мае колькі хвабрыкаў (мыла, цукерак і інш.) млыноў і значнаю лічбу мэханічных пекарнеў.

Коопэратыўны рух у Беларусі ёсьць яшчэ даволі малады. Меў ён масавыя хвормы ў ваенны й пасляваенны час. Тады коопэратывы расьлі як грыбы. Рост іхні вызваны быў да некаторай меры штучна (ваенным часам), ня меў адпаведных людзёў працы. Развой іхні запыніў і ў большай часьці зьнішчыў іхнія невялікія капіталы падаючы курс грошаў. Вынікам гэтага было, што маладыя коопэратывы не маглі апанаваць гаспадарскіх труднасьцеў і большая часьць іх паўпадала.

Апошнія гады коопэратыўны рух у нас як бы стаў на мёртвым пункце. Сьведчыць аб гэтым хоць бы й той факт, што прыкладам у досьць вялікім Дзісенскім павеце ёсьць толькі чатыры слабенкія спажывецкія коопэратывы, слабы маюць размах і іншыя роды коопэрацыі; існуючыя ў некатарых мясцох коопэратывы земляробска-гандлёвыя пачынаюць губляць рысы коопэратывізму. У вапошні час многа дзе закладаюцца супалкі малачарскія, пры моцнай памозе з боку самаўрадаў.

Але гэтакае палажэньне яшчэ не даводзе, што ў Беларусі нямашака зацікаўленьня коопэрацыяй. Зацікаўленьне ёсьць і навет не малое. Беларускае сялянства пачынае разумець важнасьць кожнай галіны коопэрацыі так патрэбных земляробу як: спажывецкая, крэдытная, земляробская і інш. Малы-ж поступ коопэрацыі ў нас ёсьць вынікам спэцыфічных абставінаў жыцьця нашага краю, якія задзержуюць альбо зусім дапелняюць поступ здаровых сіл вёскі ў кірунку гаспадарскага адраджэньня.

Трэба яшчэ зазначыць, што многія коопэратывы не імкнуцца да заўсёднай супрацы із сваімі сябрамі; ня трымаюцца яны точна літары статуту, забываюцца, што коопэратыў ня толькі гандлёвае прадпрыемства, але й грамадзкая ўстанова, якая павінна гадаваць сваіх сяброў у правілах узаемнай салідарнасьці. Не выпаўненьне гэтых галоўных асноваў коопэрацыі, абходжаньне ізь сябрамі коопэратывы як у прыватным гандлю, безахвоціць часта навет найгарачэйшых прыхільнікаў коопэратывы.

Кожны сябра коопэратыву мусіць быць так узгадаваны, каб відзеў у коопэратыве свой собскі твор, сваё дзіцё; так сказаць (калі можна гэдак выразіцца), каб меў коопэратыўны патрыётызм.

Злучэньне беларускай спажывецкай коопэрацыі з польскай, хаця і ўтрымала ад заняпаду мацнейшыя коопэратывы, але незразумленьне яе павадыроў асаблівасьцеў развою нашага народу, няздольнасьць падыйці да вёскі із зразумелай ёй мовай было прычынай таго, як гэта было успомнена вышэй, што коопэратыўны рух стаў на мёртвым пункце.

Каб скрануць яго зь мейсца, пабудзіць да творскай працы, у яго павінны ўліцца маладыя, ідэйныя, здаровыя сілы краю, якія сваім маладым запалам зрабілі-б удзячнаю працу коопэратыўнага ўсьведамленьня ў усіх куточках вёскі.

Павінен-бы ў Вільні быць створаны ідэйны цэнтр коопэрацыі з мэтай яе папулярызацыі ў народзе, цэнтр гэтакі выпрацаваў-бы кірунак коопэратыўнага руху згодна з асаблівасьцямі краю. Дзеля ўжыцьцяўленьня гэтых мэтаў павінна быць створана коопэратыўна-пропогандыстычнае таварыства (хоць-бы нешта падобнае да фінляндзкага „Tellerwo“).

Гэтай працай павінна было-б зацікавіцца ўсё грамадзянства. Пачэсная роля ў паходзе коопэрацыі выпадае на беларускаю прэссу дзеля ўсьведамленьня насяленьня аб значэньні коопэрацыі. Павінны зразумець усе, што коопэрацыя і толькі коопэрацыя, як згодная супраца ўсяго народу, аддаляючая непатрэбныя шкодныя часьці грамадзкага арганізму, творачая новыя роды сужыцьця, аддаліць насьпяваючыя антаганізмы клясаў цяперашняга грамадзянства і створыць новаю эру ў жыцьці людзтва—эру коопэратывізму.

*А. Ар.*

Вільня, 15—XII—28 г.

---

# Дзівосы й сьмяхоты.

### Дварчаніну Бацькаўшчыны ня трэба.

Лекцыю сваю 18. XI. 28. I. Дварчанін скончыў лёзунгам: „Няхай жыве ня Бацькаўшчына, а народ!“.

„Народ“ не адноўчы пісаў, што Дварчанін і ўся ягоная дабраная кумпаня—інтэрнацыяналістыя, што ім ня дорага нашая Бацькаўшчына і беларуская справа. Дварчанін у розных „Працах“ запіраўся, пісаў, што наш часапіс выдумляе, каб скопраміт'аваць яго у вачох народу, але такімі лёзунгамі—як і ўсёй работай—ён дыкжэ сам даводзе сваю інтэрнацыяналістычнасьць.

Што такое Бацькаўшчына?

Бацькаўшчына — гэта зямля, заселеная здаўна народам. Хто ня зыча Бацькаўшчыне дабра, хто ня хоча, каб народ сам гаспадарыў на сваёй зямлі (Бацькаўшчыне), той ня можа жадаць дабра і самому народу. I запраўды, народ для інтэрнацыяналістых „няхай жыве“ толькі на тое, каб рабіць зь ім розныя экспэрымэнты (пробы), а Бацькаўшчынай, зямлёй ягонай інтэрнацыяналістыя ня цікавяцца, няхай сабе яе забіраюць польскія або жыдоўскія асаднікі.

Панове інтэрнацыяналістыя, ці ня порана вы адкрываеце сваё аблічча, гэта-ж народ пагоне вас кольлям ад сябе?!

*Кр. Асва.*

---

*Прачытаўшы, не зьністажай, але дай прачытаць другому.*

---

# Што пішуць аб Крывічох (Беларусах).

„Аб беларускай інтэлігенцыі“. „Życie Nowogródzkie“ выдаванае Наваградзкім вайводзтвам, надрукавала ў „Вольнай трыбуне“ сьцяг артыкулаў розных аўтараў на тэму „Аб інтэлігенцыі беларускай“. Побач із паглядамі сур'ёзнымі знаходзім тутака такжа наіўныя й неадпавядаючыя праўдзе. Ня шкодзіла-б, каб і прадстаўнікі сьвядомае беларускае інтэлігенцыі прынялі ўчасьце ў гэтым дыспуце.

„Дыялекты беларускага языка“. У № 5 часапісу „Sprawy Narodowościowe“ выдаванага польскім „Інстытутам Дасьледаваньня Нацыянальных Справаў“ (Варшава, Ясна 19), д-р Я. Станкевіч надрукаваў пад вышменаваным назовам вялізнаю (звыш 10-ёх старонак) стацьцю. У стацьці паказаны падзел беларускае мовы на нарэччы і пададзеныя граніцы беларускае мовы.

---

*Браты Беларусы, пашырайце сваю беларускаю газэту „НАРОД“!*

---

## Свая пошта.

— **Рыгору Семашкевічу**—адрэс перамянаем.

— **Леаніду Глышку, Рыгору Патурбэйку, Стэфану Воўкаву, Станіславу Барсуку, Паўлу Кабаку, Літоўскаму Навуковаму Т-ву. Э. Карпенюку і Яну Башаркевічу**—газэту пасылаем. Ад **Т. Браўковіча**—27 зл. дасталі, па 3 экзэмпляры газэты пасылаем.

Ад **Я. Забелы**—2 зл. дасталі, газэту пасылаем.

---



Выдавецтва Беларускае Сялянскае Партыі. Вільня, Друкарня „РАХ“, Сьвята-Ігнатаўская вул. № 5. Рэдактар Б. Станкевіч.